# КРЫВІЯ

**Выданьне беларускае дыяспары ў Чэхіі**

**№29 Сакавік - Травень 2013**

**Культурна-асьветніцкая газэта**

## З Ь М Е С Т



## Беларуская Чэхія

### Дарагія сябры, сардэчна віншуем вас з Днём Волі!!! Жыве Беларусь!

Афіцыйнае сьвяткаваньне Дня Волі ў Празе адбылося 23-га сакавіка. Спачатку праскія беларусы (каля трыццаці чалавек) сабраліся на Альшанскіх могілках, каб ушанаваць памяць прэзыдэнтаў Рады БНР Пётры Крэчэўскага, Васіля Захаркі і сьпевака Міхася Забэйды-Суміцкага. Айцец Андрусь Абламейка правёў традыцыйную паніхіду, беларусы разам засьпявалі малітву “Вечная памяць” і гімн “Магутны Божа”. Каля могілак выступілі з прамовамі старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, былы старшыня БНФ Вінцук Вячорка, украінскі сябра дыяспары Олег Зайнулін і “голас радыё Свабода” Алена Ціхановіч.



Пасьля паніхіды айцец Андрусь запрасіў усіх на набажэнства ў найстарэйшай праскай царкве Сьвятых Кузьмы і Дзям’яна з пачатку X ст.

Галоўная частка сьвяточнай імпрэзы адбылася ў залі каля царквы. Імпрэзу вёў намесьнік старшыні Рады БНР Сяргей Навумчык. Беларусаў павіншавалі госьці мерапрыемства: старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, сябра арганізацыйнага камітэту Беларускага руху і былы старшыня БНФ Вінцук Вячорка, былы камандзір брыгады спэцназу Ўладзімер Барадач і пісьменьнік Уладзімер Арлоў.



*Старшыня Рады БНР*
*Івонка Сурвіла вітае сход*

Былі прачытаныя прывітаньні ад Зянона Пазьняка і Беларуса-Амэрыканскага Задзіночаньня. Выступіла з віншаваньнямі і сябра дыяспары чэшка Сьвятлана Вранова, якая прачытала ўрывак са свайго перакладу на чэскую мову кнігі Паўла Севярынца “Люблю Беларусь” і атрымала маленькі падарунак ад Алены Ціхановіч.

Пасля ўрачыстых прамоваў адбыўся канцэрт, на якім беларусам прадставілі сваю музычную праграму чэская сьпявачка Vesna і рэпер Vincent.




*сьпявачка Vesna,*
*сп. Сяргей Шупа на гітары*

Цалкам на імпрэзе прысутнічала каля ста чалавек.

**Крыніца: http://pahonia.cz**

**НАЙНАВЕЙШЫЯ**
**весткі**
**з жыцьця беларусаў Чэхіі**
знойдзеце на сеціўнай старонцы
суполкі ПАГОНЯ
**http://pahonia.cz**

## Урачыстае адкрыцьцё клюбоўні падчас сьвяткаваньня Дня Волі

23-га сакавіка, як і было запланавана, ўрэшце адбылося ўрачыстае адкрыцьцё нашай клюбоўні ў новым памяшканьні (адрас: вул. 5. května 1043/32). Гэта падзея ўвайшла ў праграму сьвяткавання Дня Волі і стала яе завяршальнай часткай. Паглядзець на новую клюбоўню прыйшлі каля ста чалавек, у тым ліку шмат дзяцей. Панавала вясёлая сьвяточная атмасфэра.

Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, намесьнік старшыні Рады БНР Сяргей Навумчык, былы старшыня БНФ Вінцук Вячорка, пісьменьнік Уладзімер Арлоў і камандзір брыгады спэцназу Ўладзімер Барадач у адстаўцы урачыста перарэзалі бел-чырвона-белую стужку і тым самым адкрылі клюбоўню.



Айцец Андрусь Абламейка асьвяціў новае памяшканьне і ікону Бялыніцкай Божай Маці, якую выканаў і падарыў клюбоўні вядомы мастак, сябра суполкі ПАГОНЯ, Алесь Пушкін. Потым айцец Андрусь прачытаў малітву за будучых чытачоў бібліятэкі і гасцей клюбоўні. Нагадаем, што беларуская бібліятэка таксама ўтрымоўваецца суполкай ПАГОНЯ і разьмешчана ў памяшканьні клюбоўні. Кожнаму, хто жадае пазычыць нейкую кнігу, будзем вельмі рады! Прыходзьце, калі ласка, айцец Андрусь усіх блаславіў!

Для гасьцей клюбоўні быў арганізаваны фуршэт.

Клюбоўня атрымала ад гасьцей шмат розных падарункаў, сярод іх кнігі для бібліятэкі ад Вінцука Вячоркі, Уладзімера Арлова, Яўгена Сідорыка, Сяргея Скаруліса, Віталя Цімошчанкі, Максіма Беляўскага, Галіны Кунінай. Акрамя гэтага Яўген Сідорык падарыў вялізную харугву з надпісам “Жыве Беларусь!”,



*Айцец Абламейка асьвячае клюбоўню*

Максім Беляўскі - дзьве гістарычныя мапы, Алена Аліева - прыгожы ўручную вышыты ручнік.

Сьвяткаванне адкрыцця суправаджала багатая культурная праграма. Алесь Ясінскі заіграў на акардыёне “Ліцьвінскую сюіту”, Раман Арлоў сьпяваў песьні пад гітару, Ўладзімер Арлоў чытаў свае новыя вершы.



*Канцэрт Алеся Ясінскага*

Вясёлым завяршэньнем сьвяточнай праграмы сталі беларускія народныя танцы, якія ладзіла моладзь разам зь дзеткамі да самага позьняга вечара.



**Крыніца: http://pahonia.cz**

# Сустрэча зь міністрам Шварцэнбэргам

У Дзень Волі міністр замежных справаў Чэскай Рэспублікі Карэл Шварцэнбэрг сустрэўся са старшынёй Рады БНР Івонкай Сурвілай. Адразу пасьля сустрэчы Івонка Сурвіла дала інтэрв’ю радыё «Свабода».

— Івонка, якія галоўныя вынікі перамоваў з кіраўніком чэскага МЗС, экс-кандыдатам у прэзідэнты Карлам Шварцэнбэргам?

— Мы пачалі ад пытання незалежнасьці Беларусі, згадалі нашае леташняе дасягненьне — «Віленскі мемарандум» за незалежнасьць, а таксама заўважылі, да якой ступені апазіцыя зьядналася для падпісан ня гэтага вельмі важнага для нас дакуманту. Закранулі тэму Расіі і яе ўплыву на Беларусь, было прыемна адчуць, што спадар Шварцэнберг вельмі добра гэтую праблему ўсьведамляе. Гаварылі мы і пра шэнгенскія візы для грамадзян Беларусі. Спадар Шварцэнбэрг сказаў, што ў пытаньні візаў фактычна не Эўропа супрацiўляецца зьніжэньню цаны і лібералізацыі візавага рэжыму, а Беларусь. І сказаў, што вельмі цяжка казаць пра супольную акцыю ў гэтай галіне, таму што некаторыя краіны хочуць рабіць выключна паводле ўзаемных дамоваў, і калі Эўропа да гэтага гатовая — Беларусь (маецца на ўвазе цяперашняе кіраўніцтва) супрацiўляецца. І ў такой сітуацыі Эўропа сама па сабе вельмі мала можа зрабіць. Але ён гэта бярэ пад увагу і будзе гаварыць пра гэта з Эўропай.



*Сп. Сяргей Навумчык, Івонка Сурвілла,*
*Карэл Шварцэнбэрг*

— А што яшчэ дзеля падтрымкі дэмакратычных сіл у Беларусі можна зрабіць, пра што гаварыў спадар Шварцэнбэрг?

— Мы гаварылі пра палітычных вязьняў, уздымалі пытаньне акцыі супраць гакейнага чэмпіянату ў Мінску ў 2014 годзе. Таксама гаварылі пра фундацыю «Эразмус», Шварцэнбэрг казаў, што ён ужо доўга гэтым займаецца, што ён падтрымоўваў і будзе падтрымоўваць — з намерам дазволіць большай колькасьці беларускіх студэнтаў атрымоўваць стыпэндыі ў Эўропе. Ну і апошні пункт, які мы закранулі, — гэта справа наданьня беларусам у Чэхіі статусу нацыянальнай меншасьці, пра што ён таксама дакладна ведаў і гэтую прапанову ён таксама падтрымоўвае.

**Крыніца:** Радыё Свабода

## У Празе праходзіла сустрэча беларускіх арганізацыяў у Эўропе

Удзельнікі сустрэчы, якая адбылася ў фармаце дыскусіі, абмяркоўвалася шырокае кола пытаньняў. У прыватнасьці, як адзначыў экс-кандыдат у прэзідэнты Алесь Міхалевіч, прайшоў аналіз сітуацыі ў Беларусі, быў праведзены “мазгавы штурм” магчымых шляхоў супрацы паміж арганізацыямі, прынятыя рэзалюцыі па важных пытаньнях.

- Мы абмяркоўвалі канкрэтныя пытаньні нашай супрацы, прынялі некалькі рэзалюцыяў. Напрыклад, рэзалюцыю па адмене аплаты за візу і спрашчэньні візавай працэдуры для грамадзян Беларусі, рэзалюцыю адносна чэмпіянату па гакеі з заклікам, што калі ня будуць вызваленыя палітвязьні, каб перанесьці яго ў іншую краіну. Мы размаўлялі пра дзясяткі розных пытаньняў супрацы, часам пра вельмі празаічныя. Напрыклад, пра назоў нашай краіны на некаторых мовах. Трэба адзначыць, што, сапраўды, прысутнічае вельмі шырокая геаграфія беларускіх арганізацыяў.

У дыскусіі бралі ўдзел прадстаўнікі беларускага палітычнага прадстаўніцтва ў Бэльгіі, беларуская дыяспара са Швайцарыі, Дом аб’ яднанай Беларусі зь Вільні, Беларускі дом у Варшаве, пяць беларускіх арганізацыяў з Чэхіі ды іншыя.

**Крыніца:** Антон Разумоўскі, Беларускае Радыё Рацыя, 20 лютага 2013.

## Стужка “Жыве Беларусь!” стала лаўрэатам чэскага кінафестывалю

Кінастужка «Жыве Беларусь!» па сцэнары Франака Вячоркі заняла другое месца на кінафэстывалі ў Празе. Члены журы пасля паказу распавядалі, што гэта адзіны конкурсны паказ фестывалю, пасьля якога былі апладысменты, паведаміў Франак Вячорка. Сцэнарыст лічыць, што стужка сапраўды нечакана выбілася ў лаўрэаты чэскага кінафестывалю.

- Я нават не чакаў такога добрага выніку таму, што вельмі моцныя канкурэнты, з добрымі бюджэтамі, зоркамі з самых розных эўрапэйскіх краінаў. Магчыма таму, што стужка не падобная да іншых, прымушае задумацца, у ёй няма гэпі-энду, а толькі знак пытаньня. Магчыма многія не чакалі такое пабачыць на фестывалі: перамешваюцца поўны рэалізм сучаснай Беларусі і пачуцьці, прага людзей да свабоды. Магчыма мы патрапілі ў трэнд, бо менавіта змаганьне за свабоду запаўняе зараз сабой інфармацыйную прастору ўсяго сьвету, але, бязумоўна, і высокая прафесійная праца здымачнай групы.

Польскі рэжысёр стужкі «Жыве Беларусь!» Кшыштаф Лукашэвіч, па словах Франака Вячоркі, вядзе перамовы, каб на польска-беларускім памежжы арганізаваць бясплатныя паказы гэтай кінастужкі. Галоўную ролю рок-музыкі Мірона Захаркі выканаў беларускі музыка Зьміцер (Вінцэнт) Папко, музыку для стужкі напісаў Лявон Вольскі. Стужка заснавана на рэальных падзеях і сабрала ў сабе гісторыі і лёсы многіх беларусаў, якія прайшлі ці праходзяць праз рэпрэсіі ў Беларусі.



*Зьміцер (Вінцэнт) Папко*
*ў ролі Мірона Захаркі*

**Крыніца:** Антон Разумоўскі, Беларускае Радыё Рацыя, 24.03.2013

**ВІНШУЕМ**
**нашых сяброў**
**з НАРОДЗІНАМІ!**

**у САКАВІКУ:**
**Кірылу Якімовіча, Алену Бойка, Ганну Васілевіч, Любу Грунькоўскую, Натальлю Ратнікаву, Яўгена Мурашку, Юлю Гладкую, Касю Палівада, Сяргея Макарава, Аляксея Францкевіча, Аляксея Веку, Андрэя Бучу, Юрку Станкевіча, Віталя Воранава, Жэню Манцэвіч, Галіну Навумчык Франка Вячорку, Алеся Цімошчанку**

**у КРАСАВІКУ:**
**Аляксея Знаткевіча, Жану Віткоўскую, Кацю Навуменка, Надзю Шчарбакову, Рыту Гаціх, СяргеяДоўгушава,АленуПаддубскую**

**у ТРАЎНІ:**
**Алесю Вінакураву, Віталя Цімошчанку Андрэя Навуменку, Алеся Гладкага, Юрася Бушлякова**

## НАВІНЫ з Бацькаўшчыны

# Дзень Волі ў Менску

Каля тысячы чалавек узялі ўдзел у шэсьці і ўрачыстым мітынгу на Дзень Волі ў Менску. Удзельнікі скандавалі “Жыве Беларусь!” і патрабавалі дэмакратычных зьменаў у краіне. Супрацоўнікі міліцыі, якія суправаджалі калону, вялі ўдзельнікаў шэсьця па нязручным маршруце праз вузкія вуліцы і сьнег, дарожны рух ня быў перакрыты, што не давала калоне ісьці хутка і аднародна.

Нягледзячы на перашкоды, перад плошчай Бангалор калона штораз павялічвалася. Карэспандэнт Беларускага Радыё Рацыя ў менску Вольга Чарных даведвалася, чаму беларусы прыйшлі на Дзень Волі:

- Мы 25 гадоў ужо ходзім . І сёньня прышлі. Мы – за вольнасьць. Трэба сьвяткаваць. Пакуль свабоды не атрымаем, не памрэм!

- Чаму прыйшлі? Таму што - беларусы. 25 Сакавіка мы заўжды адзначаем.

- Крычу: “Жыве Беларусь!”, каб усе мяне пачулі. Усе хочуць вольнасьці. Жыве Беларусь!

14:00

Удзельнікі акцыі набліжаюцца да месца правядзеньня мітынгу, з месца падзеяў перадае наш карэспандэнт Аляксандр Ярашэвіч:

- Колькасьць удзельнікаў мерапрыемства паводле арганізатараў павялічылася да тысячы чалавек. Зараз яны прыйшлі на плошчу Бангалор, дзе павінен адбыцца мітынг. Пляцоўка для мітынгу агароджана турнікетамі, на ўваходзе стаяць супрацоўнікі АМАПу і правяраюць дэманстрантаў. Можна сказаць, што мерапрыемства праходзіць спакойна, супрацоўнікі міліцыі не перашкаджаюць удзельнікам.

Амаль усе ўдзельнікі акцыі прайшлі большую частку запланавага маршруту. Нягледзячы на забарону ўладаў на выкарыстаньне транспарантаў, некаторыя іх прынесьлі. Людзі паводзяць сябе арганізавана і маюць сьвяточны настрой:

- Я беларус, я нацыяналіст - гэта нармальная зьява, калі чалавек любіць сваю Радзіму, любіць сваю нацыю.

- Я хацела быць разам са сваімі аднадумцамі, таму і прыйшла.

- Мы прыйшлі на Дзень Волі, каб адчуць сябе вольнымі людзьмі.

- Я лічу, што сёньня вельмі значнае для Беларусі свята - дзень прыняц ця 3-й устаноўчай граматы Рады БНР, гэта важная гістарычная дата, таму на Дзень Волі трэба прыходзіць.

Каля забаўляльнага цэнтра “НЛО” невядомыя віталі калону салютам. Дзяўчаты крычаць “Люблю Беларусь!”. Удзельнікі шэсця пэрыядычна скандуюць лозунгі “Жыве Беларусь!”, “Верым, можам, пераможам!”, “Свабоду палітвязьням!”.

Калону суправаджаюць аўтамабілі ДАІ і прадстаўнікі АМАПу, якія паводле аператыўнай інфармацыі нашага карэспандэнта Вольгі Чарных рытуюць шэраг затрыманьняў:



- Я стаю каля групы АМАПу, паміж сабой яны абмяркоўвалі, што зьбіраюцца разыйсьціся па натоўпе, каб затрымаць некалькіх асобаў, якіх ужо вызначылі. Толькі што я пачула, як адзін з іх казаў пра тое, каб затрымоўвалі пасьля заканчэньня акцыі, каб ня было скандалу. Аднаго ўжо павялі ў аўтазак, нажаль пакуль невядома каго, гэта нехта з БХД. Я паспрабавала запісаць размовы, але мне загадалі адыйсьці ад іх. Хутчэй за ўсё гэта людзі, якія стаялі з плакатамі – гэта актывісты БХД, “Маладога Фронту” і арганізацыя “Zмена”. Цяпер АМАПаўцы падцягваюцца да плошчы Бангалор, куды прыйшла калона, тут іх становіцца штораз больш.




Паводле аператыўнай інфармацыі супрацоўнікі АМАПу рыхтуюць шэраг затрыманьняў удзельнікаў акцыі.

**Крыніца:** Беларускае Радыё Рацыя, 24.03.2013

# «Мова ці кава» ў асяродку талерантнасьці

Імпрэза выклікала цікавасьць — на першы занятак сабралася больш за 100 чалавек. Уражаньнямі пра дэбют падзялілася карэспандэнтка Першага расейскага каналу Кацярына Кібальчыч — ініцыятарка беларусізацыі празь нефармальныя дачыненьні за кубкам кавы.

Пад загадзя анансаванае мерапрыемства з шэрагу тэхнічных акалічнасьцяў у апошні момант давялося шукаць альтэрнатыўную пляцоўку. Але Кацярына Кібальчыч усьцешаная, што на колькасьці ахвотных размаўляць па-беларуску гэта не адбілася:

— Я разьлічвала, што будзе шмат народу, бо калі цягам тыдня на курсы запісалася каля 60 чалавек, то ў апошні дзень — яшчэ чалавек 30. Прычым з пазнакай «я + 1». Таму яшчэ перад заняткамі мы ведалі, што прыйдзе блізу 100 чалавек. То бок мы былі да гэтага гатовыя. Усе практыкаваньні былі разьлічаныя на тое, каб людзі маглі займацца ў вялікай групе і кожны мог крыху пагаварыць ужо на першым занятку. Я думаю, што ў далейшым людзей будзе прыходзіць меней, але другі, трэці занятак мы будзем плянаваць, зыходзячы ўсё ж зь вялікай аўдыторыі.

— Што можна сказаць пра склад удзельнікаў? Гэта людзі, якія сапраўды дрэнна валодаюць мовай — ці, наадварот, добра, але хацелі б яе яшчэ больш удасканаліць?

— Гэтаксама, як і ў Маскве — людзі вельмі розныя. Прыйшлі і беларускамоўныя, якія добра ведаюць, і людзі, якія гавораць нават не на трасянцы, а проста па-расейску зь некаторымі беларускімі словамі. Але мы прынялі статут, за які ўсе прысутныя прагаласавалі. Зацьвердзілі першае правіла, якое кажа: усе размаўляюць толькі на беларускай мове, нават калі яны яе вельмі дрэнна ведаюць. Дарэчы, адна жанчына прызналася, што ўвогуле першы раз у жыцьці гаворыць па-беларуску, хоць усё жыцьцё пражыла ў Беларусі. Людзі абсалютна розныя: нехта ўсёй сям’ёй прыходзіць, былі пэнсіянэры з маленькім хлопчыкам, прыйшла дачка з маці.

— Што людзей увогуле цягне вывучаць беларускую мову? І перадусім тых, хто ніколі ў жыцьці ёй нават не карыстаўся?

— Іншая жанчына сказала, што сама яна дрэнна ведае беларускую мову, але яе дзеці выхоўваюць унукаў па-беларуску. І бабуля зь імі ня можа размаўляць, бо дзеткі беларускамоўныя. Асабіста ў яе такі вось матыў. Шмат патрыятычных слоў было сказана: маўляў, мы беларусы, сорамна, што ня ведаем роднай мовы. Бадай, гэта самая распаўсюджаная матывацыя — людзі проста хочуць сябе адчуваць беларусамі. Яны, можа, і раней хацелі б гаварыць на беларускай мове, але ў іх проста ня было такой магчымасьці — яны існуюць у расейскамоўным асяродзьдзі.

— Якое самае істотнае адрозьненьне моўных курсаў у Менску і Маскве? Можна правесьці нейкую мяжу?

— Насамрэч аўдыторыі падобныя. Тое, што прыйшлі людзі, у якіх моўны ўзровень «зэро» — дык гэта як у Маскве, так і ў Менску. Прыйшла японка, напрыклад. Вядома, што ва ўнівэрсытэце яна вучыць і расейскую, і беларускую, але практычна не размаўляе. У Маскве таксама ёсьць расейцы, якія прыйшлі ў лепшым выпадку зь мінімальным узроўнем ведаў пра беларускую мову. Таму і ў Маскве, і ў Менску досыць блізкая паводле складу і аўдыторыя, і матывацыя. Нават тое, як нашы «навучэнцы» выглядаюць: і тут, і там — гэта інтэлігентныя людзі, самага рознага веку. Бадай, найбольшая адметнасьць у тым, што ў Менску было шмат журналістаў. Прычым прыйшлі яны не як журналісты, а як студэнты. Гэта клясна, бо журналісты пішуць для масаў. І калі мы будзем вучыць у тым ліку журналістаў, якія будуць практыкаваць, то гэта мае нашмат большы сэнс, чым проста навучаньне людзей, якія потым гэтай мовай, можа, увогуле ня будуць карыстацца. А журналістам гэта ў любым выпадку спатрэбіцца.

— Кацярына, колькі слоў пра выкладчыкаў...

— О, выкладчыкі ў нас цудоўныя! Я глядзела, маўчала ўвесь занятак, у працы ня ўдзельнічала. У Маскве часам магу нешта дадаць, але тут і так былі тры чалавекі. **Васіль Дранько-Майсюк** прыехаў адмыслова з Масквы, каб, адкрыўшы курсы, перадаць эстафэту Менску. **Глеб Лабадзенка** — журналіст, блогер, а цяпер і пісьменьнік, бо выпусьціў кніжку пра беларускую мову для дзетак. **Алеся Літвіноўская** — філёляг, у якой ёсьць досьвед выкладаньня беларускай мовы дарослым людзям, выкладала замежнікам. Увогуле Глеб празваў Алесю «нашай вікіпэдыяй». І сапраўды: гэты чалавек ведае беларускую мову настолькі глыбока, настолькі грунтоўна, але пры гэтым яна надзвычай лёгкая. Яна можа рабіць нейкія імправізацыі, расказвае розныя байкі, у яе выдатнае пачуцьцё гумару. Глеб — прыроджаны вядоўца, у яго талент, каб выкладаць перад вялікай аўдыторыяй. І калі яны ўбачылі такую вялікую аўдыторыю, то не разгубіліся. Быў вельмі добры двухбаковы кантакт. Гэта выглядала, разумееце, як добра пастаўленае ток-шоў.

— Якія яшчэ статутныя мэты курсаў «Мова ці кава»?

— Як я ўжо казала, найперш тое, што мы гаворым толькі на беларускай мове, нават калі мы яе ня ведаем. Тое, што мы талерантна ставімся да людзей, якія дрэнна валодаюць беларускай: беларускамоўныя не сьмяюцца з расейскамоўных і трасянкамоўных, і наадварот. То бок не павінна быць ніякіх абразаў, а павінна быць атмасфэра талерантнасьці. Таксама талерантнасьць да людзей розных палітычных поглядаў. Людзі стаміліся ад палітыкі, яны проста прыходзяць, каб вучыць мову, каб атрымоўваць пэўныя веды і спаткаць сяброў. Скажам так, не на палітычнай глебе аб’ яднацца. Наша правіла: клюб «Мова ці кава» —

гэта клюб па-за палітыкай, і людзі з гэтым пагадзіліся. Было бачна, што шмат людзей прыйшлі менавіта таму, што курсы арганізавалі людзі, якія не зьвязаныя зь нейкім палітычным рухам, з апазыцыяй, таму што людзі ад гэтага таксама стаміліся, яны ня хочуць, каб іх уцягвалі ў нейкую палітычную барацьбу ці штосьці кшталту таго. Шмат людзей прыйшло ў тым ліку і таму, што зразумелі: гэта — асьветніцкі праект, а не палітычны.

**Кацярына Кібальчыч** нарадзілася 21 верасьня 1982 году ў Менску. Скончыла факультэт журналістыкі Белдзяржунівэрсытэту. Першы журналісцкі досьвед атрымала ў тыднёвіку «Свободные новости», ад 2002 году — у праграме навінаў тэлеканалу АНТ. У 2003-м пераехала ў Маскву, дзе спачатку супрацоўнічала з Трэцім каналам як карэспандэнтка праграмы «Галоўная тэма», а з 2005 году — журналістка Першага расейскага каналу.

Кацярына — ляўрэат прэміі «Залатое пяро Расеі-2010» у намінацыі «Спэцыяльны карэспандэнт». Уганараваная за сэрыю рэпартажаў на Першым расейскім канале з «гарачай кропкі», якой у сьнежні 2010 году стала яе радзіма — Беларусь. Яна ж — рэжысэрка неаднаразова адзначанага на міжнародных фэстывалях дакумэнтальнага фільму «Беларуская мара», прысьвечанага выжываньню ва ўмовах дыктатуры.

**Крыніца:** Ігар Карней, 19.02.2013

# Беларусы Эўразьвязу

## Учора і сёньня.

За дваццаць пяць год існаваньня Таварыства Беларускай Культуры ўЛітве ня было выпадку, каб не адбылося мерапрыемства, заплянаванага на апошнюю суботу кожнага месяца, адзначыў неяк старшыня ТБК Хведар Нюнька. Кожны месяц ёсьць нагода, каб сустрэцца, адзначыць юбілеі вядомых беларускіх дзеячоў, абмеркаваць падзеі Бацькаўшчыны. У лютым шмат было нагод.

Першая- традыцыйнае сьвяткаваньне дня гімназіі, кожны год пасьля развалу савецкай імперыі. Заснаваная ў 1919 годзе (1 лютага) па ініцыятыве вядомага беларускага археолага, калекцыянера, грамадзкага дзеяча Івана Луцкевіча. Яна дзейнічала да 1944г., пакуль ня была зачынена савецкімі ўладамі, якія рабілі ўсё, каб зьнішчыць усялякія беларускія сьляды, у горадзе, які праслявіў Францыск Скарына, Леў Сапега, Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч і іншыя беларусы. Значэньне Віленскай Беларускай Гімназіі прызнавалі ўсе: і сябры і ворагі. Для першых яна была “кузьняй беларускай сьвядомай інтэлігенцыі”, для другіх- “гняздом беларускіх нацыяналістаў”. На працягу 25 г. існаваньня, гімназія перажывала і пад’ёмы і спады, працавала пры розных рэжымах, была прыватнай, а ў 1933г. стала дзяржаўнай, фактычна страціўшы незалежнасьць, зрабіўшыся філіяй польскай гімназіі імя Ю.Славацкага.

У 1939г. каб захаваць ВБГ, дзякуючы намаганьням ксяндза Адама Станкевіча і Адольфа Клімовіча, удалося набраць вучняў, але гэта ня была поўная гімназія, а прагімназія,бо ў ёй былі толькі дзьве першыя клясы, замест чатырох. Падчас нямецкай акупацыі прагімназія зноў пераўтварылася ў гімназію. У 1944г. гімназія ўрачыста адсьвяткавала сваё 25 годзьдзе і ў гэтым годзе, пасьля заняцьця Вільні савецкай арміяй, гімназія была зачыненая. Савецкая ўлада палічыла не патрэбным лічыцца з беларускім грамадзтвам Вільні і Віленскага краю. На працягу 25 год працы гімназіі мяняліся дырэктары: імі былі Мікола Кахановіч, Браніслаў Тарашкевіч,Антон Неканда-Трэпка,Радаслаў Астроўскі, Фелікс Стацкевіч, В.Кавалевіч, Барыс Кіта, кс.Адам Станкевіч, Мікола Анцукевіч і Францішак Грынкевіч. Кожны год у дзень заснаваньня ВБГ беларусы Віньні і вучні віленскай беларускай школы імя Фр.Скарыны, якая ў лютым гэтага года атрымала статус гімназіі, ўскладаюць кветкі на магілу заснавальніка гімназіі Івана Луцкевіча на могілках Росы, а таксама на Ліпаўцы, дзе пахаваны дырэктары гімназіі, настаўнікі, сярод іх і настаўніца беларускай мовы Алёна Сакалова-Лекант, якая працавала ў гімназіі 25 год. Алёна Сакалова-Лекант і кс.Адам Станкевіч працавалі ў гімназіі ўсе 25 гадоў ейнай дзейнасьці.

Дзякуючы прафесіяналізму выкладчыкаў у гімназіі панавала атмасфера нацыянальнай і рэлігійнай талерантнасьці, узгадоўваўся беларускі нацыянальны дух. Пэўны час прыходзіў у Таварыства Беларускай Культуры сын Міколы Анцукевіча, Алег Анцукевіч, гэтым разам на нашым мерапрыемстве ўпяршыню прысутнічаў унук Міколы Анцукевіча Мікола Анцукевіч, названы ў гонар дзеда. А таксама выкладчыца Літоўскай Акадэміі музыкі, сябар ТБК Тацьцяна Скарэне, дачка Юрыя Зямніцкага, якая ўжо на працягу 10 год уручае лепшаму вучню 12 клясы за любоў да роднай мовы прэмію імя бацькі, шчырага беларуса, заснавальніка і першага кіраўніка хору “Сябрына”. Пра ВБГ распавяла Леакадзія Мілаш.

У лютым споўнілася 45 год з дня адкрыцьця краязнаўчага музея ў Гудзевічах. Актывісты таварыства некалькі разоў наведалі Гудзевічы, езьдзілі ня толькі, каб паглядзець экспанаты, але і найперш, каб сустрэцца зь яго заснавальнікам Алесям Белакозам, надзвычай цікавым чалавекам, патрыётам, настаўнікам, захавальнікам спадчыны. У музеі знаходзіцца і экспанат Віленскай Беларускай Гімназіі, адзіны ў сьвеце глобус на беларускай мове, лісты ад Зоські Верас і шмат іншых экспанатаў, якія сёньня маюць ужо гістарычную каштоўнасьць. Мы да гэтага часу п’ём лекавую крамянёвую ваду. Я ў Гудзвічах была мо разоў пяць і сваімі ўражаньнямі падзялілася на імпрэзе. Нават была прапанова яшчэ раз наведаць Гудзевічы.

У лютым споўнілася 70 год, як былі закатаваны каталіцкія сьвятары ў Росіцы. Пра іх жыцьцё і сьвятарскую дзейнасьць напісала кнігу Ірына Жарнасек, а на імпрэзе распавёў дасьледчык, навуковец Алесь Адамковіч.

Агляд жыцьця і творчасьці Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, якому ў лютым споўнілася 205 г. з дня нараджэньня зрабіў Артур Юдзіцкі. Ён жа напрыканцы зрабіў кароткае паведамленьне аб апошніх навінах зь Беларусію

На мінулай імпрэзе Валера Радзюкевіч падрабязна распавёў пра творчасьць ансамбля “Песьняры”, наш журналіст Андрусь Старавойтаў зрабіў добрую перадачу на радыёхвалях Літвы пра калектыў, якая мела станоўчы водгук сяород слухачоў Літвы. На лютаўскай імпрэзе В. Радзюкевіч распавёў аб творчай дзейнасьці былога саліста ансамбля Лявона Барткевіча.

Вядома, што ў ТБК цікавяцца ня толькі гісторыяй мінуўшчыны, але і падзеямі, якія адбываюцца ў Беларусі і Літве цяпер. Хрысьціна Балаховіч у захапленьні ад выставы моды Аляксандра Васільева, якая праходзіць у мастацкай галерэі Вільні. Яна таксама падзялілася ўражаньнямі з прысутнымі. 23 лютага ў сталіцы Літвы адкрылася фотавыстава беларускага сьвятара Паўла Валынцэвіча. Некаторым здымкам 100г., а ўсяго на выставе каля 70 фатаграфіяў, па іх можна вывучаць жыцьцё і быт беларускіх сялян, погляд сьвятара на сьвет. На кожным здымку усяго на кароткае імгненьне спынілася жыцьцё на цэлых 60 год. Сваімі ўражаньнямі ад выставы падзялілася аўтарка гэтых радкоў.

Жыцьцё цікавае і кожны дзень напоўнены падзеямі, сутрэчамі. І нашыя імпрэзы ў Таварыстве Беларускай Культуры зьяўляюцца непоўторнымі, а часам і гістарычнымі.

В.а.старшыні ТБК Леакадзія Мілаш, Вільня 23 лютага 2013г.

## Жудасная сьмерць Рамана Вайніцкага

Цела Рамана Вайніцкага знайшлі ў падвале дому, у якім ён жыў.

Пра сьмерць Вайніцкага паведаміла Галіна Сівалава, дырэктарка беларускай гімназіі імя Скарыны ў Вільні. «Неймаверна, але праўда». Рамана знайшлі зьвязаным і замучаным: на целе былі сьляды катавання. У яго быў заклеены рот. Апошнім часам яму нібыта пагражалі.



Сп. Галіна расказала, што раніцай у гімназію патэлефанавалі сямейнікі Рамана: спраўдзіць, ці на месцы ён. Бо ніхто не заўважыў, як ён пакінуў кватэру, а машына стаяла на месцы. Але на працы Вайніцкі не зьявіўся. Дома сямейнікі не знайшлі ключы ад падвалу. Спусьціліся і там знайшлі Рамана. Цела забрала паліцыя. Цяпер чакаецца прыезд крыміналістаў на кватэру да Вайніцкіх.

Раман Вайніцкі нарадзіўся ў 1960 годзе ў Вішневе на Валожыншчыне.

Узначальваў Згуртаваньне беларускіх грамадзкіх арганізацыяў Літвы (з 2009) і Клуб аматараў беларускай народнай творчасьці «Сябрына». Быў намесьнікам дырэктара па эканоміцы ў беларускай гімназіі імя Францішкі Скарыны. Таксама зьяўляўся намесьнікам страшыні Рады нацыянальных абшчын пры Міністэрстве культуры Літвы.

Па словах сп. Сівалавай, менавіта Вайніцкі займаўся пытаньнямі рамонту ў гімназіі, шукаў спонсараў для гэтага, а таксама дапамагаў выпускнікам пастпаць у беларускія ВНУ.

У Рамана засталіся жонка і трое дарослых дзяцей: два сыны і дачка.

У 2011 Раман Вайніцкі ад імя беларусаў Літвы заклікаў ня ўводзіць эканамічныя санкцыі супраць Беларусі. А разгон мірнай акцыі дэманстрантаў пасьля выбараў-2010 назваў «унутранай справай». Нягледзячы на розную ацэнку палітычнай сітуацыі ў нашай краіне, Вайніцкі браў удзел у некаторых мерапрыемствах Таварыства беларускай культуры Літвы, якое выступае супраць рэжыму Лукашэнкі.

**Крыніца:** *Наша Ніва*, 6 сакавіка 2013

## У Вільні адбылася V канфэрэнцыя Беларусаў Балтыі й замежжа

6-7 красавіка 2013 г. у Вільні праходзіла V канфэрэнцыя Беларусаў Балтыі і замежжа, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі Літвы, Латвіі, Эстоніі, Чэхіі й Беларусі. Арганізаваў і правёў канфэрэнцыю старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве, Хведар Нюнька.

Сёньня, як ніколі, востра стаіць праблема ня толькі страты незалежнасьці Рэспублікай Беларусь, але і праблема зьнікненьня саміх беларусаў. На жаль, беларуская нацыя апынулася ў такім становішчы, калі кіруючая акупацыйная ўлада зацікаўленая як мага ў найхутчэйшым зьнікненьні беларускай нацыі, аб чым яскрава сведчыць нахабная і адкрытая русіфікацыя. У сучасны момант яна набыла такія маштабы, якіх ня было нават за часамі расійскай імперыі і антычалавечага камуністычнага рэжыму, калі беларускасьць ня толькі мэтанакіравана выводзіцца з грамадзкага ўжытку, але афіцыйнымі ўладамі зводзіцца да маргінальнай і антыграмадзкай зьявы. У Беларусі дажыліся да таго, што размаўляць па-беларуску ня толькі сорамна й смешна, але і злачынна. З аднаго боку мы маем сваю дзяржаву, але зь іншага – яна цалкам антыбеларуская. І гэта прыводзіць да таго, што беларуская нацыя асімілюецца як на сваёй этнічнай радзіме, так і ў іншых краінах пражываньня. У такіх складаных умовах мы ўвайшлі ў XXI стагодзьдзе.

І зараз паўстае рытарычнае пытаньне: быць ці ня быць беларускай нацыі. З аднаго боку яна выпакутавала сабе месца ў эўрапэйскай сям'і народаў, зь іншага – згубіла яго праз сваю абыякавасьць да сваіх дзядоў. Праблема русіфікацыі, якая так востра паўстала ў Беларусі – гэта праблема ня толькі антыбеларускага акупацыйнага рэжыму, гэта найперш праблема саміх яе насельнікаў, якія дабраахвотна адмовіліся ад мовы сваіх прашчураў, ад мовы, на якой іх сустракалі матулі, на парозе сваіх дамоў, калі яны з гораду вярталіся праведаць сваіх бацькоў, ад мовы, якую яны першай пачулі ў сваім жыцьці, бо на ёй матуля ім сьпявала

свае калыханкі і на ёй гаманілі ў іх сем’ях і вёсках. Таму ў многім складана зразумець тое, што беларусы самі адмовіліся ад самага сьвятога – мовы дадзенай ім Богам.

І зразумела, што асноўная прычына асіміляцыйных працэсаў – гэта тое, што беларусы не размаўляюць на сваёй мове. І як вынік – іх дзеці ўжо не адчуваюць сябе беларусамі, нават калі самі бацькі яшчэ лічаць сябе імі. Такім чынам, ужо першае пакаленьне праз рускую мову індэнтыфікуе сябе зь іншай нацыяй. І гэты працэс безнадзейны. Другая прычына – гэта тое, што беларусы забытыя сваёй этнічнай бацькаўшчынай, якая ня робіць значных захадаў аб падтрымцы сваіх суродзічаў за межамі краіны. Да гэтага часу ня прыняты закон аб беларускіх суайчыньніках. Атрымліваецца, што беларус па-за межамі Беларусі – чужы для яе і ўспрымаецца як замежны грамадзянін. І такім чынам, калі за людзьмі іншых нацыянальнасцяў стаяць іх этнічныя дзяржавы, за беларусамі ніхто. І такім чынам выгадна быць рускім, палякам, але толькі ня беларусам. А наколькі было б прыемна прыехаць беларусу ў Беларусь і пачувацца там суродзічам, а ня чужынцам.

Гэта асноўныя дзьве праблемы, якія дыскутаваліся ў часе канфэрэнцыі, удзельнікі якой сабраліся, каб абмеркаваць праблему захаваньня беларускай нацыі.

Праца канфэрэнцыі распачалася з прывітальнага слова ад імя арганізатараў, якое сказалі вядучая **Леакадыя Мілаш** і старшыня ТБК **Хведар Нюнька**. Затым была абрана рэдакцыйная камісія, у склад якой увайшлі **Алена Макоўская, Ніна Шыдлоўская, Валянцін Голубеў, Радзім Гарэцкі і аўтар гэтых радкоў**. Асноўная задача рэдакцыйнай камісіі – выпрацаваць тэксты рэзалюцыі і зваротаў да розных дзяржаўных інстытуцыяў, з тым, каб засьведчыць аб праблемах, якія паўсталі перад беларускай нацыяй.

Пачынаючы працу канферэнцыі, Хведар Нюнька зазначыў, што сама канфэрэнцыя носіць закрыты характар, таму на яе працу не былі запрошаныя журналісты. Затым кораценька ахарактаразаваў праблемы, якія паўстаюць перад працай Таварыства беларускай культуры. За 25 гадоў працы ёсьць чым і пахваліцца. Гэта і прыдбанае памяшканне ва ўласнасьць, гэта і зямельны пляц пад пабудову культурна-асветніцкага цэнтру імя Якуба Коласа. Але зараз перад беларусамі стаіць іншая пагроза: пагражае згуба незалежнасьці Беларусі. У краіне пануе антыбеларускі рэжым, які зьнішчыў усё беларускае, ёсьць палітычныя вязьні ў краіне. Спадар Хведар таксама зазначыў, што масавая асіміляцыя беларусаў назіраецца і ў Літве. З кожным перапісам насельніцтва іх усё менш і менш. І на жаль, гэты працэс у дадзены момант спыніць немагчыма. Далей прамоўца засяродзіў увагу на тым, што беларусы не размаўляюць на сваёй роднай мове: “Мы не можам называць беларусам таго, хто не размаўляе на сваёй роднай мове”. Але на жаль, з кожным годам колькасьць рускамоўных беларусаў павялічваецца, што зьўяляецца нацыянальнай трагедыяй.

**Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская** ў сваіх выступах засярodзілі ўвагу на праблемах працы ў беларускіх дыяспарах у розных краінах. Сёньня зразумела, што калі ня будзе весьціся праца зь беларускімі дыяспарамі, яны проста перастануць існаваць.

Прамаўляючы да выступоўцаў **Станіслаў Шушкевіч** выказаў нечаканы тэзіс, што нельга выкладаць фізіку на беларускай мове, бо не хапае спецыяльнай тэрміналогіі, з чым не пагадзіўся Валянцін Голубеў, зазначыўшы, што дастаткова маем слоўнікаў і магчыма рабіць калькі з ангельскай мовы, калі сапраўды не хапае тэхнічных тэрмінаў. Таксама Станіслаў Шушкевіч прэзентаваў сваю кнігу, якая выйшла на рускай мове. На думку паважанага сп. Станіслава, для таго, каб захаваць беларускасьць, трэба прывабіць да яе сучасную беларускую моладзь, у супраціўным выпадку мы яе проста страцім.

**Валянцін Голубеў** выказаў меркаваньне, што праблема захаваньня беларускай нацыі залежыць ня толькі ад палітычнай абстаноўкі, але і эканамічнай. Чалавек выбірае дзе яму лепей. Ня ўсе такія ахвярныя людзі, якія будуць рваць кашулю і казаць: “Мы беларусы”. Далей сп. Валянцін зазначыў, што тады, у пачатку 90-ых гг. ня ўсё зрабілі для беларускіх суполак за мяжой. А пасля прыйшоў чалавек, які адкінуў усе беларускія нацыянальныя каштоўнасьці. Сёньня так атрымліваецца, што і Літоўскай дзяржаве эканамічна выгадна працаваць з афіцыйным Менскам. Эканоміка таксама шмат вырашае. Але зразумела, што афіцыйны Менск ніколі не падтрымае беларускія суполкі замежжа, якія стаяць пад бел-чырвона-белым сцягам. Але, на жаль, без матар’яльнай і фінансавай падтрымкі вельмі цяжка падтрымліваць беларускі дух і трэба штосьці рабіць.

Прадстаўнік новай хвалі беларускай эміграцыі - старшыня Грамадзкага і палітычнага прадстаўніцтва Беларусі ў Літве HUB **Алег Мяцеліца** падзяліўся сваім аптымізмам наконт беларускасьці як у Беларусі, так і ў замежжы, і лічыць, што ня ўсё так кепска і ня ўсё страчана. На яго думку, калі зьменіцца сітуацыя ў Беларусі на дзяржаўным узроўні, шмат асіміляваных беларусаў зноў стануць беларусамі. Бо зараз проста эканамічна выгадней быць палякамі, рускімі, чым беларусамі. І як прыклад, сп. Алег узгадаў канцэрт Ляпіса Трубяцкога ў Вільні, калі палякі станавіліся беларусамі, слухаючы песьні гэтага сьпевака. Таму варта ствараць такія вось прадукты, якія дапамагаюць беларусам адчуваць сябе беларусамі.

Становішчам беларусаў у Эстоніі і Латвіі падзяліліся **Зінаіда Клыга і Вячка Целеш**.

Зінаіда Клыга адзначыла, што беларусаў у Эстоніі няшмат: 12 тысячаў (менш 1 %). Нягледзячы на гэта існуе некалькі беларускіх суполак у розных гарадох гэтай краіны. Нават на дзяржаўным радыё ёсьць

беларуская праграма. Сама Зінаіда, нягледзячы на тое, што з маленства была адарваная ад Беларусі, цудоўна валодае беларускай мовай, захавала беларускую душу і вельмі прыгожа і душэўна сьпявае песні на беларускай мове. Сп. Зінаіда прадстаўляе беларускую арганізацыю Эстоніі БЭЗ (Беларускае Эстонскае Згуртаванне), якая ў гэтым годзе адзначыла 24-гадавіну сваёй дзейнасьці. А сама суполка з большага трымаецца на старых каранях.

Становішча беларусаў у Латвіі крыху іншае. Аб гэтым распавядаў спадар **Вячка Целеш**. Там яны сярод нацыянальных меншасьцяў на другім месцы. Але там існуе вялікая праблема – яны практычна ўсе рускамоўныя. І беларусы там падзеленыя на два лагеры, як і ў Літве: на чэсных і нячэсных. У Рызе працуе беларуская школа, але на жаль, беларускага ў ёй мала. Таксама, у адрозьненне ад Літвы, няма ў беларускіх арганізацыях прытоку новых кадраў. А гэта таксама абцяжарвае працу.

Выступаючы, **Уладзімір Арлоў**, звярнуў увагу на тое, што трэба ў Вільні захаваць памяць Кастуся Каліноўскага. У гэтым годзе спаўняецца 150 гадоў з пачатку нацыянальна-вызвольнага паўстаньня на Беларусі і Літве. Вельмі добра было б выправіць памылковую дату на шыльдзе, якая ўсталяваная на месцы пакараньня смерцю Кастуся Каліноўскага. А таксама добрым было б распачаць захады па ўсталяваньні памятнай табліцы на меркаваным месцы пахаваньня К. Каліноўскага. Сёньня назіраецца вялікая праблема, калі многія прыпявалы рэжыму, дагаварыліся да таго, што Каліноўскі і яго паплечнікі былі тэрарыстамі і ворагамі беларускага народу. Трэба даць годны адказ на такія заявы. І далей сп. Уладзімір прадоўжыў: "Калі я чытаю ў школьных падручніках, што гаспадзін Мураўёў-вешальнік быў прагрэсіўны рэфарматар, я проста згадваю словы Алеся Дудара, напісаныя ў 30 гг.:

*Плююць на сонца і на дзень.*
*О, дух наш вольны, дзе ты, дзе ты?*
*Ім мураўёўскі б гальштук ўздзець,*
*Нашчадкам мураўёўскім гэтым...*

Для нас важна захаваць імя Кастуся Каліноўскага і яго ідэі, за якія ён аддаў сваё маладое жыццё. І ў завяршэньні спадар Уладзімір зазначыў, што ідэі паўстаньня Каліноўскага, былі ўвасобленыя ў ідэалах БНР.

**Міхась Скобла** ў часе канферэнцыі прэзентаваў кнігу лістоў і ўспамінаў Зоські Верас *"Я помню ўсё"*. У гэтай кнізе сабраныя ня толькі ўспаміны Зоські Верас, але і ўся беларуская гісторыя бурлівага XX стагодзьдзя. Нягледзячы на свой век, гэта жанчына да драбніц памятала самыя важныя падзеі, якія адбываліся на працягу яе жыцьця і былі зьвязаныя са знакавымі асобамі ў беларускай гісторыі. Тут і знаёмства з Максімам Багдановічам і шматгадовая перапіска з Ларысай Геніюш, Алесем Белакозам і іншымі знакавымі асобамі беларускай рэчаіснасьці. У яе лістох спадзяваньне, боль, расчараваньне і надзея… Зразумела, выкліканыя лёсам Беларусі. І як зазначыў паважаны Міхась Скобла, менавіта Зоську Верас можна лічыць самай велічнай асобай у старонцы віленскіх беларусаў. І калі паўстае пытаньне, каму неабходна яшчэ ўсталяваць памятную шыльду ў Вільні, тут толькі адзін адказ –Зосьцы Верас.

Спадар **Алег Трусаў** у сваёй прамове быў больш аптымістычны. На яго думку, вялікай пагрозы для беларускай мовы няма. У дадзены момант важна захаваць трасянку і далучыць да яе як мага больш людзей. Людзей, якія размаўляюць на беларускай літаратурнай мове, каля 3-4 %, каля 30 % на трасянцы. Таму для захаваньня мовы, важныя і гэтыя людзі. Праўда, ужо дажыліся да таго, што беларусы ня чуюць жывой беларускай мовы. І гэта вялікая праблема, бо значная частка беларусаў ужо ня можа правільна чытаць і вымаўляць па-беларуску. Але, па словах Алега Трусава, яго арганізацыя *Таварыства Беларускай Мовы* робіць вельмі шмат, каб ужываньне беларускай мовы захоўвалася на ранейшым узроўні і хаця б крыху пашыралася. Скажам, сёньня ў Менску толькі 2 % вучняў навучаецца на беларускай мове. Таму ўсім вельмі шмат трэба працаваць на захаваньне нацыянальнай мовы.

У далейшых прамовах, якія ў многім пераклікаліся з папярэднімі выступоўцамі, гучала занепакоенасьць лёсам беларускай нацыі й мовы. Выступалі **Радзім Гарэцкі, Генадзь Бураўкін, Юрка Станкевіч, Анатоль Астапенка** і інш. У іх словах: спадзяваньне на тое, што Беларусь ня знікне і будзе жыць далей, беларуская нацыя і яе мова няўміручая. Але без беларускай мовы няма беларускай нацыі. І тут прыгадваюцца радкі вершу Натальлі Арсенневай:

*Каб ня мова,*
*Даўно мы растаялі,*
*Расплыліся імглой між чужых,*
*Зьбеглі ў вырай жураўлінаю стаяю…*
*Але з мовай –*
*І мы будзем жыць.*

Вядомы беларускі рэжысёр **Вольга Мікалайчык** прэзэнтавала свае новыя фільмы, якія закранаюць самую балючую старонку найноўшай гісторыі – наяўнасьць у краіне палітвязьняў. У яе стужках выразна бачна боль за краіну і боль за людзкія душы, якія не скарыліся перад антыбеларускім рэжымам, захавалі сваю годнасьць, за што і церпяць. І ў іх цярпеньні, своеасаблівым пратэсьце, надзея на тое, што Беларусь будзе вольнай, незалежнай, дэмакратычнай, эўрапэйскай дзяржавай.

Другая частка мерапрыемстваў – адзначэньне юбілею паважанага старшыні Таварыства беларускай культуры ў Літве спадара **Хведара Нюнькі**. Вось ужо каля 25 гадоў ён кіруе гэтай арганізацыяй, якая стаіць на шляху дэмакратызацыі Беларусі, змагаецца

за яе волю і незалежнасьць пад бел-чырвона-белым сьцягам і гербам Пагоня. І ад гэтых сімвалаў і ідэалаў Таварыства не адмовілася і не адступіла ні на крок.



*Юбілейная вечарына*

Віншуючы юбіляра многія адзначылі яго вялікі ўклад у захаваньне, пашырэньне й прапаганду беларускасці ў Літве. Менавіта стараньнямі Хведара Нюнькі ў Вільні ўсталявана больш за дзесятак шыльдаў беларускім дзеячом, адкрыта і працуе Віленская сярэдняя беларуская школа, Цэнтр беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры на філалагічным факультэце Літоўскага ўніверсітэту эдукалогіі, на віленскіх могілках Росы ўсталяваныя помнікі братом Івану і Антону Луцкевічам, Францішку Аляхновічу. Дзякуючы яму многія літоўцы ведаюць, што беларусы таксама маюць сваю старонку ў гісторыі літоўскай сталіцы. І сёньня Таварыства праводзіць вялікую працу па захаваньні беларускасьці ў Літве. І як зазначыў сп. Шушкевіч, што прыяжджаючы ў Вільню, ён па-беларуску размаўляе больш, чым у самой Беларусі.

Важным зьяўляецца той факт, што народзіны сп. Нюнькі прыпадаюць на той самы дзень, што і Барыса Кіта, якому споўнілася 103 гады. Удзельнікі юбілею даслалі віншаваньне і паважанаму сп. Барысу.



*На Лукіскім пляцы*

На раніцы ў нядзелю 7-га красавіка, удзельнікі канфэрэнцыі падаліся на Лукіскі пляц - месца сьмерці Кастуся Каліноўскага - каб ушанаваць памяць аб ім.

Пазьней былі выпрацаваныя і прынятыя тэксты рэзалюцыі і зваротаў у розныя інстытуцыі.

Пад час завяршэньня канфэрэнцыі было зазначана, што вельмі прыемна, што прыехалі ў Вільню беларусы з розных краінаў, а гэта дало магчымасьць бліжэй пазнаёміцца, а таксама распавесьці аб агульных праблемах, зь якімі сутыкнуліся суродзічы ў розных краінах Эўропы. Было выказана таксама жаданьне, каб такія канфэрэнцыі арганізоўваліся і ў іншых краінах, дзе пражываюць беларусы. Гэта дае магчымасьць ня толькі сустрэцца беларусам і пазнаёміцца, але таксама засведчыць сьвету аб сваім існаванні і праблемах, якія паўсталі перад нацыяй.

Алесь Адамковіч.
Вільня красавік 2013

## Малая ВАНДРОЎКА па Вільні

На просьбу дэлегатаў з Чэхіі. у панядзелак 8-га красавіка Таварыства Беларускай Культуры наладзіла малую экскурсію па найбольш памятных мясьцінах Беларускае Вільні, а таксама па мясьцінах, дзе жыў у сваім дзяцінстве сп. Юрка Станкевіч - дэлегат з Чэхіі ды сам віленскі ўраджэнец.

Праваднікам экскурсіі быў сп. Алесь Адамковіч; сп. Зьміцер Віленскі памог з транспартам і фатаграфіямі.

Вандроўка пачалася на могілках Роса - запраўдным пантэоне волатаў беларускага адраджэньня: “нашаніўцаў” братоў Івана й Антона Луцкевічаў, драматурга Францішка Аляхновіча, паэта Казімера Сваяка ды іншых.

Пасьля экскурсанты накіраваліся ў мясьціны дзяцінства сп. Станкевіча - ў маляўнічыя прадмесьці Зарэчча ды Маркуці.

Вярнуўшыся ў цэнтар Вільні, мы пабачылі славутую Войструю Браму - і Базыльянскія Муры, дзе шмат гадоў працавала Віленская Беларуская Гімназія; тут сп. Станкевіч наведваў про-гімназію. Нарэшце, на вуліцы Вялікай, мы дайшлі да слаўнай друкарні Мамонічаў, у якой беларускі першадрукар, Др. Скарына друкаваў свае кнігі ў 16-тым стагодзьдзі.



*Ля магілы братоў Луцкевічаў*

## Рэзалюцыя
## “Аб становішчы беларускай нацыянальнай меншасьці Балтыйскага рэгіёну”

Беларусы, як і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў Балтыйскага рэгіёну зьяўляюцца неад’емнай часткай грамадстваў краін свайго пражываньня і зацікаўленыя ў іх росквіце і развіцьці. Нацыянальная адметнасьць зьяўляецца асновай разнастайнага развіцьця грамадстваў эўрапэйскіх краінаў, таму захаваньне й развіц цё беларускай прысутнасці ў краінах Балтыі мае вялікае гісторыка-культурнае значэньне.

У сучаснай сітуацыі Беларусь, як краіна-мэтраполія, ня робіць дастатковых крокаў дзеля развіцьця беларускай супольнасці за мяжою. І ў гэтых умовах падтрымка з боку ўрадаў краінаў Балтыі беларусам мае асаблівае значэньне. Бяз гэтай падтрымкі не існавала б беларускіх радыё- і тэлепраграмаў, беларускіх школаў і выданьняў, ня было б магчымасьці ладзіць грамадзка-культурніцкія мерапрыемствы і многае іншае.

Мы – прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў Літвы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы й Чэхіі выказваем удзячнасьць урадам краінаў Балтыі як за падтрымку нашай дзейнасьці , так і за захады, якія робяць гэтыя ўрады дзеля вяртаньня Беларусі ў Эўрапэйскую супольнасьць.

Мы выказваем спадзеў на яшчэ больш прадуктыўнае супрацоўніцтва адпаведных дзяржаўных структураў і дзеючых беларускіх арганізацыяў у краінах Балтыйскага рэгіёну.

Разам з тым, мы выказваем занепакоенасьць у сувязі з актамі парушэньня правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь і наяўнасьцю ў краіне палітычных зьняволеных.

Спадзяемся, што супольныя намаганьні дадуць плён і Беларусь – наша краіна-маці ў бліжэйшай будучыні будзе знаходзіцца ў сям’і эўрапэйскіх дэмакратычных народаў.

Мы выказваем упэўненасьць у тым, што і Рэспубліка Беларусь набудзе поўную свабоду і незалежнасьць і далучыцца да агульна-эўрапэйскай дэмакратычнай сям’і!

Вільня, 07.04.2013 г.

---

## Зварот да Ураду Літоўскай Рэспублікі і кіраўніцтва г. Вільні дэлегатаў Пятай канфэрэнцыі беларусаў краін Балтыі

Мы, прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў Літвы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы, Беларусі й Чэхіі выказваем ўдзячнасьць ураду Літоўскай Рэспублікі, у сталіцы якой сталася магчымым правядзеньне Пятай канфэрэнцыі беларусаў краін Балтыі.

Лёсы літоўскага і беларускага народу цесна зьвязаныя ў гісторыі. Гэты год зьяўляецца знакавым для нашых нацыяў. Сёлета мы адзначаем 150-гадовыя ўгодкі нацыянальна-вызваленчага паўстаньня 1863-1864 гг., якое сталася яскравым сведчаньнем сумеснай барацьбы нашых народаў за волю і незалежнасць!

У сувязі з гэтым мы зьвяртаемся да кіраўніцтва Літоўскай Рэспублікі і гораду Вільні з прапановай годна ўшанаваць памяць паўстанцаў 1863-1864 гг. Просім падчас рэканструкцыі Лукіскага пляцу захаваць і прывесьці ў адпаведнасьць з гістарычнымі фактамі памятны знак на месцы сьмяротнага пакараньня кіраўніка паўстаньня, Кастуся Каліноўскага, а таксама прадугледзець магчымасьць усталяваньня мэмарыяльнага знаку на верагодным месцы яго пахаваньня.

---

## Зварот да Ураду Рэспублікі Беларусь дэлегатаў Пятай канферэнцыі беларусаў краін Балтыі

Мы, прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў Літвы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы й Чэхіі зьяўляемся неад’емнай часткай беларускай нацыі, хаця і стала пражываем у замежжы. Мы займаемся захаваньнем і развіцьцём беларускай культуры, яе папулярызацыяй у краінах свайго пражываньня, гэтым самым нясем веды пра Беларусь у сьвет.

Бяз сістэмнай падтрымкі з боку Беларускай дзяржавы з кожным годам рабіць гэта ўсё складаней. І як вынік – моцныя асіміляцыйныя працэсы ў нашых краінах, калі беларусы нават другога пакаленьня ўжо не атаясамліваюць сябе з радзімай бацькоў. Мы заклапочаныя тым, што ўсё менш моладзі далучаецца да беларускіх суполак у замежжы. Ад гэтага траціць беларуская дзяржава.

У сувязі з гэтым зьвяртаемся да Вас з прапановай зрабіць найбольш важныя крокі, якія найперш могуць дапамагчы спыніць асіміляцыю і пашырыць беларускую прысутнасьць у рэгіёне:

**Паскорыць прыняцьце Закону “Аб беларусах замежжа”.**

**Павялічыць колькасьць беларускамоўных праграмаў для спадарожнікавага вяшчаньня, бо беларусы, якія нарадзіліся ў замежжы, ужо ня маюць магчымасьці чуць беларускую мову. А беларуская мова – аснова існаваньня беларускай нацыі.**

**Прыняць неабходныя захады па падтрымцы існуючых, а таксама стварэньні новых беларускіх школаў у замежжы.**

Дзеля кансалідацыі беларускай нацыі ў гэты юбілейны, знакавы год 150-годзьдзя нацыянальна-вызваленчага паўстаньня 1863-1864 гг. прапануем усталяваць у сталіцы Беларусі – Менску помнік кіраўніку паўстаньня - Кастусю Каліноўскаму.

Вільня, 7.04.2013 г.

**КРЫВІЯ - Культурна-асьветніцкая газэта**
Выданьне беларускай дыяспары ў Чэхіі
MK ČR E 16919
РЭДАКЦЫЯ
Юрка Станкевіч
Ганна Васілевіч
Адрас рэдакцыі: Časopis KRYVIJA
ul. Malešická 553/65, 108 00 Praha 10